Цана асобнага нумару 10 гр. | Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 5 (56). | Вільня, Субота 15 студня 1927 г. | Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Вольная, Незалежная, Злучаная Беларусь!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ПОЛАЦКАЯ 4. (WILNO, POŁOCKA 4).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцау 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі.
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Як выконваецца канкардат?

Сялянскі Саюз стаіць на тэй аснове, што сумленьне кожнага чалавека зьяўляецца яго асабістаю справаю, што ўлада не мае ніякага права ўмешывацца ў сэкрэты душы грамадзяніна. Ёсьць ведама, не павінна быць ніякага абавязку належыць да той, ці іншай веры, а дык рэлігійныя ўстановы: касьцёл і царква павінны быць аддзелены ад дзяржавы, дзяржава ня мае ніякага права ўмешывацца ў рэлігійнае жыцьцё. Гэтыя прынцыпы ў большасьці дзяржаваў ужо зьдзайсьнены, толькі тут пад Польшчай трываюць яшчэ старыя законы—законы панаваньня сьвецкай улады над рэлігіяй. Пакуль Польшча ня мела яшчэ канкардату з Рымам, датуль адміністрацыйныя ўлады не маглі сільна ўлазіць (ангажавацца) у жыцьцё каталіцкага касьцёлу, але з моманту ўвядзеньня ў жыцьцё канкардату, касьцёлам пачаў кіраваць быццам не духоўнік, а сьвецкі — палітык, а мо' звычайны рэфэрэнт. Праваслаўную царкву ўжо даўно такія рэфэрэнты ўзялі ў свае рукі, а духоўныя ўлады зрабіліся сьляпымі выканальнікамі волі адміністрацыйных уладаў. Але цяпер і каталіцкі касьцёл пераходзе ў рукі польскай шовіністычнай палітыкі. Гаворачы аб гэтым перадусім маем на мэце палітыку ў касьцеле на беларускіх землях. Вось першым актам польскай палітыкі ў касьцеле была зьмена віленскага біскупа. Польская шовіністычная палітыка павінна была знайсьці на Беларускія Землі такога пастыра, якому-б ня трэба было пісаць цыркуляраў, як гэта рабіў адзін з віленскіх ваяводаў (дэлегат ураду) тагочаснаму біскупу Матулевічу, а які-б сам з „ласкі Божай“ натхнёны польскасьцю, замест вучыць аб запраўдным хрысьціянстве, бяз розьніцы нацыянальнай афарбоўкі, пачаў праз касьцёл палянізаваць Беларускі Народ.

Ня доўга прышлося шукаць такога адміністратара дыецэзіяй. Магчыма, што такіх у Польшчы шмат ёсьць, бо вызначаны Рымам пры згодзе польскага ўраду, цяперашні арцыпастар аказаўся для Палякаў найлепшым. Як толькі абняў сваю дыецэзыю, зараз прыступіў да „навядзеньня парадку“. Гэтыя парадачкі патрэбны старастам і палітычнай паліцыі. Паліцыя не магла справіцца з ксяндзамі-Беларусамі, якія вядуць беларускую ўсьведамляючую і культурную працу, ды з гэтым шмат трэба тузацца, бо паднятыя судовыя працэсы (напр. прац. кс. Гадлеўскага, якога суд засудзіў на 2 гады) вельмі доўга цягнуцца, ды заграніца дзівіцца чаму гэта ў „вольнай Польшчы“ судзяць ксяндза за беларускасьць, бо камунізм трудна прышыць ім, як гэта спрытна робіць паліцыя з кожным іншым цывільным беларусам.

Вось цяпер новы арцыпастыр праводзе гэтую польскую шовіністычную палітыку шмат шпарчэй і з добрымі для Палякаў вынікамі. Як толькі ксёндз-Беларус, зараз яго пасылае на баніцыю (пакуту) у польскую парафію, каб на беларускіх землях ня мог заводзіць казаньні пабеларуску, каб не чытаў беларускіх газэт і не распаўсюджваў думкі аб беларускім адраджэньні.

З пункту гледжаньня грамадзкага—гэта вялікая крыўда; мала гэтага, гэта ёсьць перасьледаваньне архіпастырам Беларусаў і беларускага адраджэнскага руху.

Каб ярчэй схарактэрызаваць у які цынічны спосаб гэта робіцца пададзём наступны факт.

У Барадзенічах ёсьць ксёндз—Беларус, вельмі шчыры і аддаштвы сваей парафіі і грамадзкай працы на беларускай ніве. Сяляне за яго гарой. Але паліцыя затое вострыць на яго зубы ўжо некалькі год і толькі цяпер удалося ей дапяць свайго. Арцыпастыр за кару выкідае ксяндза з пробашчаўства і высылае нейдзе за вікарага. Парафіяне прыслалі да архіпастыра дэлегацыю. Архіпастыр прыняў дэлегатаў такімі славамі: „Маўчаць, за малады, смаркач, будзеш адказваць перад пракурорам і судом, тут не карчма, што прышлі таргавацца, а я ня жыд! Bezczelność!

Прыймо дэлегацыі вельмі скандальна акончылася, бо адзін з прысутных за нетактоўнае захоўваньне арцыпастыра і ягоную польскую шовіністычную палітыку ў касьцеле, сказаў:

„Эксцэленцыя можа страшыць жандармамі сялян, хоць і яны ўжо ня вельмі пужаюцца гэтага, але мяне жандармам не настрашыць“.

З усяго гэтага бачым, што за сусьветную вайну пабяднелі ня толькі большасьць народаў, але, як відаць, зьбяднеў і Рым, бо прысылае ў наш край такіх пастыраў. Праўду беларуская прыказка кажа: „На, табе Божа, што мне ня гожа“.

*Антон Муха.*

## ЦЯЖКОЕ ЖЫЦЬЦЁ БЕЛАРУСКАГА СЕЛЯНІНА.

Жыцьцё беларускага селяніна зьяўляе сабой сымболь пакуты. І то — неймавернай, гарамычнай пакуты і цярпеньня!...

Каб ня быць галаслоўным — я, проста і роўна, раскажу аб жыцьці „аднаго з многіх“ нашых беларускіх сялян у Ваўкавыскім павеце.

Няхай даведаецца шырокі сьвет, аб гэтай пакуце і аб тых прычынах, якія параджаюць яе.

Ці будзе, ці не ад гэтага каму якая-колечы карысьць ня ведаю, але таму хто вінават гэтай пакуце, безўмоўна, стане сорамна!...

Суб'ект майго расказу Піліп Прыгожы, чалавек хвараблівы, 46 гадоў, мае жонку і 6 дзяцей, з якіх толькі двое здольных да работы; мае 6 дзес. зямлі, з якіх 4 дзес. пашні і 2 дзес. сенажаці; з будынкаў — мае толькі хатку на курынай ножцы, якая хутка можа разваліцца. Больш ніякіх будынкаў няма. З жывёлы мае — задрыпаную гора кабылку, кароўку, і некалькі авечак.

Піліп Прыгожы выяжджаў у Расею, дзе пражыў 5 гадоў, а калі, у 1920 годзе, вярнуўся у родную вёску, дык застаў толькі тую хатку на курынай ножцы, без дзьвярэй і вокнаў, якую я ўжо ўспамінаў.

Уся зямля ляжала адлогам.

І вось, — гэта было ў верасьні — паўстае пытаньне, як жыць? Зіма надыходзіла з сваім марозам. Заробкаў у той час ня было ніякіх.

Але „сьвет не бяз добрых людзей“. Сёй-той то з літасьці, то за якія — небудзь услугі дапамог сім-тым Піліпу і хоць больш прыходзілася галадаць, але неяк зіма прайшла, і вынэндзаўшыся Піліпава сямейка дачакалася вясны.

Добрае вясьновае сонейка, сваімі цёплымі белымі праменьнямі, аблашчыла гэтую сямейку і дало магчымасьць зямельцы парадзіць усялякую траўку.

Першай „траўкай“ якая зьявілася — была крапіўка, а патым вырасла сьвірэпа, хоць на чужым папары. Дык вось, яны-та і прыдаліся на яданіну, яны і пратрымалі Піліпавую сямейку да лета! Хоць летам Піліпу ня было чаго жаць, хоць ня меў свайго пасеву, але лета дало магчымасьць прылажыць свае рукі да чужое працы, за якую можна было дастаць неабходны кавалак хлеба.

Гэтая-ж лета дало магчымасьць, засеяць нейкую дзесяціну жыта і ў восень, дабыць некалькі пудоў бульбы.

Праўда, другая зіма ня была лягчэйшаю ад леташняй, але неяк жылося весялей, бо была надзея на новае лета і на тое парасятка, якое здабыў ён і гадаваў.

І вось, Піліпу ўдалося, ўжо новаю вясною, пасеяць крыху ячменю і пасадзіць картофлю, ды ўправіць самому сваю сенажаць.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Як ні б'ецца, як ні стараецца Піліп — ніяк ён паправіцца ня можа, бо, няма на чым працаваць!... Тыя чатыры дзес., якія мае Піліп, ня могуць пракарміць 8 душ Піліпавай сям'і, а тут — трэ' было-б пабудаваць якое небудзь гумянцо і хлеўчык. Але як зрабіць гэта?

Была, адзін раз, зьявілася зорачка на цёмным небасхіле, але толькі зьявілася ізноў згасла на векі!... Неяк аднойчы, аж у 1923 годзе, прыяжджаў з Бюра Адбудовы, які і прызнаў Піліпу права да запамогі на адбудову, а самое Бюро абяцала выдаць гэтую запамогу, але вось, мінула некалькі гадоў і ўсё прыціхла. Бюро адбудовы зліквідавалася, а з тым і канцы ў ваду...

Кожны год Піліпу не хапае хлеба на пражыцьцё сям'і. Гэтак было і ў 1926 годзе, дык каб здабыць хлеба нашоў Піліп, далёка ад дому, бо аж за 30 вёрст, на лясную работу і праўда, за якія два тыдні, з сынам, удалося Піліпу запрацаваць на некалькі пудоў хлеба, але вось бяда!... У леташнім годзе пасадзіў Піліп некалькі кальваў табакі, за што і была наложана кара ў ліку 10 зл.

Як ні стараўся Піліп, каб гэтую кару адбыць арыштам — нічога не памагло. Налягла — плаці дый годзі, а калі Піліп ня мог заплаціць, дык акцызны ўрадовец з паліцыянтам —

# З жыцьця пад Польшчай.

### З Камісіі бюджэтавай Сойму.

Пры трэцім чытаньню бюджэту мін. зам. спр. прыняты прапазыцыі: 1) аб паменшаньні выдаткаў цэнтралі на 730 тыс. зл.; 2) аб скасаваньню штату паўнамочнага мінстра пры Лізе Народаў на сумму 100 тыс. зл.; 3) аб павышэньню крэдытаў на 100 тыс. зл. для мяшанай дэлегацыі рээвакуацыйнай камісыі.

У бюджэце мін. промыслу і гандлю на трэцім чытаньню камісія прыняла прапазыцыю ўрадавую аб увядзеньню новага крэдыту на 10 міл. дзеля будоўлі новай фабрыкі азотных зьвязкаў.

У канцы паседжаньня бюджэтавая камісыя зрабіла дэманстрацю, зносячы драбязгавыя сумы з бюджэтаў заграчічных паслоў. Паслы заграчічныя не адказываюць перад Соймам і трэба думаць, што ўрад верне ім гэную суму, на якую Сойм зьменшыў іхныя даходы.

### Маршалак Пілсудскі астаецца на сваім месцы.

З даверных крыніц надходзяць весьці, што пагалоскі аб рэзыгнацыі (адстаўцы) міністра ваенных спраў Пілсудскага са становішча шэфа ўраду і што ён нібы застанецца толькі ваенным міністрам ня маюць за сабой праўды.

Так пішуць польскія газэты. Але калі ўжо аб гэтым пішуць, дык відаць была нейкая гутарка аб дымісыі м. Пілсудскага.

### Чугуначная катастрофа.

8-га студзеня с. г. на 4 кіл. ад ст. Кутна ўдарыліся тры паравозы з цягнікам (поездам). Паравозы паразьбіваліся і частка таварных вагонаў. Ранены 4 асобы з чугуначнікаў.

9-га студзеня на ст. Люблінец выкуліўся паравоз і 4 таварныя вагоны. Адзін кандуктар ранены.

### Забастоўка пекараў.

З Кракава пішуць, што там 9 г. студня ўзнялася забастоўка пекароў. Апошнія дамагаюцца скасаваньня акардовай работы, мінімуму (наўменшае меры) платы для пекара (печнага) 75 зл., для мізэра (для таго, што месіць) 70 зл., для памочніка 65 зл.—на тыдзень, васьмігадзіннага дня працы і г. д.

# НАВІНЫ.

**— Паседжаньне ўраду Віленскага Аддзелу Інстытуту.** У чэцьвер 13-га студня адбылося паседжаньне ўраду Віленскага Аддзелу Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры. На парадку дня былі такія справы: 1) Арганізацыйныя справы; 2) Справа сталага інструктара; 3) Вызначэньне тэрміну агульнага сабраньня Аддзелу; 4) Аб новай кватэры для Аддзелу і інш.

**— Перасьледаваньні беларускіх ксяндзоў.** Беларуса кс. В. Шутовіча з Барадзеніч пераносяць у нейкую іншую парафію на вікарага. Гэтая кара тасуецца для ксяндзоў-Беларусаў за тое, што яны ўводзяць казаньні пабеларуску і наагул вядуць беларускую культурную працу на вёсцы.

* * *

Колькі чару,
Колькі ласкі,
Колькі жару
Й мілай казкі
Мела ты
Ў вуснах тых,
Дзе сьвятоя
Із сьвятых
Мела трон свайго быцьця
І гуляла, як дзіця,
Бяз тугі і страхацьця.

Колькі чару,
Колькі ласкі,
Колькі жару
Й мілай казкі
Мела ты
Ў вуснах тых,
Скуль сьвятоя
Із сьвятых
Выйшла каб мяне спаткаць
І дарогу паказаць,
Якісьці ў Рай пагуляць.

Колькі чару,
Колькі ласкі,
Колькі жару
Й цуднай казкі
Мела ты
Ў вуснах тых,
Скуль сьвятоя
Із сьвятых
Боскі мне ліло нэктар,
Як раскошны неба дар —
Пацалункаў ярых жар.

*Фр. Грышкевіч.*

## Пішэце ў „Сялянскую Ніву“

аб усім, што вам баліць і што вам дарага: аб зьдзеках і крыўдах дазнаваных ад адміністрацыі і іншых, аб зямлі, аб беларускай сьведамасьці, аб асьвеце (школы і інш.), аб войтах, валасных радах і паветавых соймiках, пішэце аб добрых учынках, каб людзі зь іх вучыліся, і аб благіх, каб адхінуць ад благога.

Пісаць трэба праўду. Хто ня хоча, каб ведалі яго праўдзівае прозьвішча, можа падпісавацца прозьвішчам выдуманым (мянюшкай), а побач з гэтым напісаць толькі першы раз сваё праўдзівае прозьвішча і адрэс для ведама рэдакцыі. Рэдакцыя сваіх карэспандэнтаў нікому не выдае.

Помнеце, што «Сял. Ніва» ёсьць газэтай усіх Вас, а дзеля гэтага жыцьцё кожнага вашага кутка мае адбівацца ў ёй як у люстры.

# Што дзеецца ў сьвеце?

### Разьня ў кітайскім месьце.

З Шантунгу надыходзяць весткі аб страшнай разьні, якая была зроблена бандытамі над жыхарамі места Ванг-Шынао. Жыхары рабілі апор бандытам, але апошнія атрымаўшы помач занялі места, падпалілі яго і вырэзалі жыхароў лікам да тысячы асоб, мужчын і кабет.

Адныя жыхары былі спаляны ў сваіх дамох, другія пастраляны пры уцяканьні.

### Выбары ў францускі сэнат закончыліся.

Выбары ў францускі сэнат, якія пачаліся яшчэ перад сьвятамі нарэшце закончыліся. Усяго выбрана 108 дэпутатаў. У гэтым ліку 67 папярэдніх сэнатароў і 41 новыя. Паводле партыяў лік гэты распадаецца як ніжэй: консэрватары атрымалі 3, страцілі 1; рэспубліканцы здабылі 19, страцілі 2; левыя рэспубліканцы здабылі 19, страцілі 8; незалежныя распубліканцы здабылі 9, страцілі 1; радыкалы здабылі 44, страцілі 6; сацыялістыя здабылі 10, страцілі 8; камуністыя дасталі 2, страцілі 2. Мільеран не прайшоў. Прэса француская абгаварываючы рэзультаты выбароў, выказывае пагляд, што лік сэнатараў, падтрыліваючы ўрад Пуанкарэ, астаўся бяз зьмены.

### Мытная вунія паміж Латвіяй а Эстоніяй.

У дню 14—15 г. студзеня прыедзе ў Рыгу эстонская дэлегацыя з мэтай распачаць гутаркі аб мытнай вуніі.

Гутаркі маюць цягнуцца 2 дні. Дапушчаюць, што да згоды дойдзе і ў Рызе будзе зроблены дагавор. Павадыром эстонскай дэлегацыі зьяўляецца міністар фінансаў Сэп.

### Англія намерваецца стварыць блёк з прыбалтыцкіх дзяржаваў.

З Рыгі паведамляюць, што савецкая прэса падымае гвалт з тэй прычыны, што нібы Англія намерваецца стварыць блёк (саюз) з прыбалтыцкіх дзяржаваў.

У сувязі з гэтым абгаварываець яна справу візыты ангельскага прэдстаўніка, які прыехаў з Рыгі да Коўна і меў нараду з прэм'ерам Вальдэмарасам.

## Як упісацца у Беларускі Сялянскі Саюз.

Падпісчык, які добра зразумеў, што Беларускі Сялянскі Саюз зьяўляецца партыяй, якая запраўды адважна бароніць інтэрэсы нашага сялянства, павінен неадкладна ўпісацца ў свой Саюз. З гэтае мэтай трэба пасласць у Цэнтральны Камітэт аткрытку (Вільня, Полацкая 4—7) з просьбай прысласць бляпкеты заявы і анкеты, інструкцыі і праграму.

— Што?!... Каго ўпусьцілі?!...

— Ну ўпусьцілі, дык упусьцілі?!... Павошта-ж шкандаль?!...

— Дый каго-ж гэта ўпусьцілі?!...

— А, кажуць, вось таго, што з паняй Рачкавай гутарыць...

— Гэты бляды?!... У візытцэ?!...

— Але, але...

— Ня можа быць?!... Гэта-ж літэрат наш!...

— Гэта-ж той, што сам сабе „Хаўтуры“ справіў у „Маланцы“!...

— Ну вось... ён самы...

— Ну і парадачкі тутка!... Павошта-ж яны да яго чапляюцца!...

— Нельзя, мам-мамачка! — у павадырскай групе чуўся голас былога прафэсара (цяперашняя „краса і гордасьць“ „Нашых Спраў)—нельзя?... М-мы-ж Эўрапэйцы!... Нават, калі-б ён ня меў запросін, все равно, мам-мамачка, нельзя вывадзіць...

Гэты разсудны голас старога прафэсара, за больш тое, што дасьледы галоўнага распарадзіцеля высьвятлілі, што беларускі літэрат зусім не па наіўнасьці ўлез у беларускаю сям'ю на спатканьне Новага Году, а меў такі запросіны і запросіны не ад маленькае сошкі „грамадоўскай“ і толькі гэтае, як здаецца, ўратавала магчымы ўжо ўспыхнуць першы шкандаль...

А тым часам з суседняга пакою, дзе накрывалася начыньне ўжо пачуліся досіць галосныя гукі адкаркаваньня бутэлек і запахла чымсь смачным, а калі дзяжурны абвясьціў, што ўсё гатова і можна садзіцца, дык вясёлы настрой, запсуты ўжо было зусім непатрэбным шкандалям шэфа, ізноў запанаваў у салі, і ўсе з шумам пацягнуліся за сталы...

І стала ізноў вясёла, шумна і фліртавата...

Лілася гарэлка, ліліся прамовы... Пілі за шэфаў, дырэктароў, павадыроў, банкіраў і калі языкі зусім развязаліся і пачаліся сьпевы, дый рыхтаваньні да „лявоніхі“, у гэты самы разгар вясёлага настрою раптам адчыніліся дзьверы і ў клубе марознага пару паказалася знаёмая ўсім фігура старога дзеяча беларускага... Твар чырвоная, вочы блішчаць, а рот... быццам хоча дакончыць недзе распачатаю прамову... Але засьмяяўся... дабрадушна, вясёла, шчыра, ад усяго сэрца... пасвяточнаму, пакалядоваму, усім тварам... быццам гатоў адразу ўсіх абняць, цалавацца, на'т падняў рукі, каб вітаць, на'т амаль-што не закрычэў: „браткі мае!... Гэта-ж я... вось вітаць вас прышоў... у сям'ю сваю беларускаю“...

— Браток ты мой даражэнькі!... Закрычэў і выскачыў з-за стала пасол Маложын — калі ласка!... Мы-ж усе Беларусы... вось тутка... — і ён радасна паляцеў да прыбыўшага... а за ім і яшчэ некалькі асоб... А тутка раптам нейкая панечка, дый зусім афіцыяльна...

— Выбачайце!... Але ў нас па запросінах...

— Панечка! Я-ж вітаць прыйшоў... Я-ж да сваіх Беларусаў...

— Выбачайце, але мы вас у салю няпусьцім...

— А вы-ж хто такая?! — зьдзівіўся прыбыўшы...

— Я... я жонка галоўнага распарадзіцеля... Вось хто я такая!...

— Чужы!... чужы прышоў! — закрычэў галоўны распарадзіцель—Дзяжурныя! Трымаць яго і ня пушчаць!...

— Што?!... Мяне?!... Старога дзеяча беларускага?!...

Але два „дзяржымарды“ ўжо падходзілі...

— Што?!... Мяне?!!... Старога дзеяча беларускага?!... і паднялася рука...

— Плясь!... раздалося на ўсю салю...

І ахнула саля... і паскаквалі... жанчыны запішчэлі, закрычэлі...

— Што?!... Мяне?!... Старога дзеяча беларускага?!...

— Трах!... і крэсла разьбілася аб падлогу...

— Што?!... Мяне?!... Старога дзеяча беларускага?!...

— Трэсь! — і пасыпаліся шклы ад лямпачкі электрычнай...

І пагаслі агні... І калі ізноў запаліліся лямпкі — прыбыўшы стары беларускі дзеяч сядзеў запёрты на 2 замкі ў цёмным пакоі, галоўны распарадзіцель нешта горача мітынгаваў паміж „грамадоўцаў“, а госьці сьпяшаліся адзецца, і... давай Бог ногі...

*Стары Хасень.*

**Ніколі ня зьніштажай сваей роднай газэты. Прачытаўшы дай яе суседу.**

